# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 6 (41) | 5-га Мая 1930 году | № 6 (41)


ЗЬМЕСТ


1. Палажэньне аб структуры і сетцы саюзных органаў.
2. Пастанова Прэзыдыуму Бел. Рэс. К-ту пра рэарганізацыі сеткі сельрабачкомаў.
3. Аб перабудове форм і мэтадаў работы нізавых саюзных органаў. (рабачкомаў).
4. Часовае палажэньне аб рабоце арганізатараў.


## Палажэньне аб структуры і сетцы саюзных органаў.

*(Зацьверджана Прэзыдыумам ЦК Саюзу Сельгаслесрабочых 11 сакавіка 1930 г.)*

Выходзячы з рашэньняў III Пленуму ЦК Саюзу аб чарговых задачах, новых формах і мэтадах работы, перабудаваць апарат і структуру саюзных органаў, кіруючыся наступным:

1) Забясьпечыць у кожнадзённай працы саюзных органаў паварот тварам да сацыялістычнай вытворчасьці і патрэб рабочых мас.

2) Уцягненьне ў работу саюзнага апарату добраахвотніцкага актыву.

Пераход ад апаратных мэтадаў работы да жывых форм, узмацненьне непасрэднай сувязі з мясцамі шляхам жывога інструктажа і практычнай дапамогі ў рабоце нізовым органам саюзу.

4) Скарачэньне, спрошчаньне і патаненьне саюзнага апарату, а побач з гэтым усямернае абнаўленьне яго новымі кадрамі вывучэнцамі-ударнікамі з вытворчасьці. Чоткае разьмяжаваньне функцый у апараце. Большая самастойнасьць і адказнасьць кожнага саюзнага работніка ў працы. Скарачэньне камісій і пасяджэньняў.

Прэзыдыум зацьверджае у адпаведнасьці з гэтым наступную структуру і сетку саюзных органаў:

### Цэнтральны камітэт саюзу.

1. Рэарганізаваць апарат ЦК на аснове наступных вытворчых сэктараў:

а) Саўгаскі
б) Лясны
в) Калгасна-батрацкі
г) Кадраў
д) Арганізацыйна-інструктарскі
е) Агульны

2. Штаб палітычна-асьветнага абслугоўваньня і масавых кампаній (культштаб).

3. Цэнтральны орган саюзу—„Сельскагаспадарчы Рабочы“ і пры ім Прэсбюро, на абавязкі якога ўскладаецца сувязь і агульны напрамак дзейнасьці ўсяго саюзнага друку.

4. Цэнтральныя Батрацкія Курсы і пры іх бюро прафэсіянальнага завочнага навучаньня на абавязку якіх ляжыць агульнае мэтадычнае кіраўніцтва ўсімі прафэсыянальным і завочным навучаньнем у саюзе.

5. Цэнтральны Дом Спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі СССР навукова—вытворчы цэнтр, маючы задачай да-

памогу саюзу ў агульнай мабілізацыі навукова-тэхнічных сіл на справу сельскай і лясной гаспадаркі.

**Рэспубліканскія, краёвыя і вобласныя камітэты.**

У асноўным будуюцца ў адпаведнасьці з структурай ЦК Саюзу, дапасавана да мясцовых умоў, арганізуючы наступныя сэктары:

1) Саўгаскі.
2) Лясны.
3) Калгасна батрацкі.
4) Кадраў.
5) Арганізаыйна інструктарскі.
6) Агульны.

Для аб'яднаньня работы розных вытворчых сэктараў і забясьпячэньня адзінства дзейнічаньня апарату, правядзеньня масава палітыка-асьветных кампаній ствараецца штаб палітыка-асьветнага абслугоўваньня і масавых кампаній (культ штаб).

У рэспубліках, краях і вобласьцях, дзе, напрыклад, лясная гаспадарка ня мае вялікага значэньня, лясны сэктар можа не арганізоўвацца. У рэспубліканскіх, краевых і вобласных цэнтрах з вялікай колькасьцю членаў саюзу—служачых у гарадох (Масква, Ленінград, Харкаў) могуць быць арганізаваны сэктары па абслугоўваньні гэтай масы членаў саюзу.

Апарат рэспубліканскіх, краевых і вобластных камітэтаў пераходзіць на жывую сувязь з нізавымі органамі (інструктаж, добраахвотнійтва і г. д.) Усе адказныя работнікі рэспубліканскіх, краевых і вобласных камітэтаў, за выключэньнем старшыні і заг. сэктарамі, працуюць як інструктары.

Абавязкі сакратара і скарбніка ў рэспубліканскіх, краевых і вобласных камітэтах, як правіла, ускладаюцца на таго ці іншага заг. сэктарамі. Прыкладна, заг. саўгаскім ці лясным. калгасна батрацкім сэктарам, у залежнасьці ад характара арганізацыі, ён жа секратар, заг. агульным сэктарам ён жа скарбнік.

Рэспубліканскія, краевыя і вобласныя камітэты непасрэдна зьвязваюцца і кіруюць нізовымі ячэйкамі і толькі ў тых асобных выпадках, калі з асобнага дазволу рэспубліланскіх, краевых і вобласных камітэтаў захоўваецца акркамітэт, непасрэдная сувязь і кіраўніцтва нізовай сеткай саюзных органаў ажыцьцяўляецца акркамітэтамі.

**Ақруговыя і інструктарскія брыгады і камітэты.**

1. Замест акруговых камітэтаў у акругах арганізуюцца інструктарскія брыгады на чале а старшым—вобласным інструктарам, на абавязку якога ляжыць сувязь з вышэйстаячымі профорганамі і мясцовымі партыйнымі, прафэсыянальнымі, савецкімі і гаспадарчымі органамі і агульнае кіраўніцтва інструктарскай брыгадай акругі.

Інструктарская брыгада фарміруецца з 2-3 штатных інструктараў і прыцягваемых у парадку добраахвотніцтва па-за штатных акруговых інструктараў.

Брыгады ня маюць каштарысных правоў і не зьяўляюцца прамежным зьвяном тыпу акруговай арганізацыі. Прамой задачай брыгады зьяўляецца аказаньне дапамогі нізовым органам саюзу у іх штодзённай практычнай рабоце.

Акруговыя камітэты ў кожным пасобным выпадку з асобнага дазволу Цэнтральнага Камітэту, захоўваецца ледзь у акругах, маючых асаблівае буйнае гаспадарча-палітычнае значэньне і налічваючых ня менш 10,000 чал. членаў саюзу, стала працуючых і якія круглы год плоцяць членскія ўзносы, ня лічычы членаў саюзу батракоў-калгасьнікаў.

У гэтых выпадках працы акруговых камітэтаў надаецца інструктарскі характар (жывая сувязь з нізовымі органамі і гэдак далей.)

2. У найбольш буйных раёнах з значным згуртаваньнем сельскагаспадарчых і лясных рабочых пры наяўнасьці ў раёне ня менш 5,000 членаў саюзу, якія стала работаюць і круглы год плоцяць членскія ўзнасы (ня лічачы членаў саюзу батракоў калгасьнікаў), можа быць, з дазволу рэспубліканскіх, краевых і вобласных камітэтаў, арганізаваны раённы камітэт ці раённая інструктарская брыгада.

**Саюзныя органы ў саўгасах.**

*а) Агульна-саўгаскі рабочы камітэт (рабачком).*

У буйных саўгасах, якія аб'ядноўваюць на сваёй тэрыторыі некалькі гаспадарчых адзінак (вучасткі, хутары, эканоміі,

трактарныя калёны, прадпрыемствы па перапрацоўцы і інш.), арганізуецца агульна-саўгаскі рабочы камітэт (рабачком саўгасу).

Для абгаварэньня і рашэньня вытворча-палітычных і прафэсыянальных пытаньняў агульнасаўгаскі рабачком склікае:

1) Агульнасаўгаскі сход рабочых, а ў тых выпадках, калі па тэрыторыяльна-тэхнічных прычынах немагчыма скліканьне агульнага сходу—агульнасаўгаскую канфэрэнцыю.

2) Агульнасаўгаскую вытворчую канфэрэнцыю.

3) Агульнасаўгаская нарада прафактыву.

Агульнасаўгаскі рабачком вылучае арганізатара па асобных відах работы, якія вакол сябе фармуюць групы добраахвотніцкага актыву.

Рабачкомы вылучаюць наступных арганізатараў:

1. Арганізатар сацспаборніцтва і ўдарніцтва, які аб'ядвае навакол сябе добраахвотніцкі актыў, прыкладна, па наступных групах: а) прамфінплян, падрыхтоўка і правядзеньне вытворчых канфэрэнцый, кантроль і праверка выкананьня рашэньняў б) сацспаборніцтва і ўдарніцтва; в) выкананьне калдагавору; г) рацыяналізацыя--вынаходцтва, барацьба з стратамі ў вытворчасьці.

2. Арганізатар працы і быту, які аб'ядвае навакол сябе добраахвотніцкі актыў, прыкладна, у наступныя групы:
а) група аховы працы; б) сацыяльна-бытавога будаўніцтва і абслугоўваньня (яслі і г. д.); в) каапэраваньня, рабочага снабжэньня і харчаваньня.

3) Арганізатар па кадрах, аб'ядвае вакол сябе добраахвотніцкі актыў, прыкладна, на наступных групах: а) падбор і вылучэньне на прафэсыянальную, гаспадарчую і савецкую работу; б) пасылка ў розныя навуковыя ўстановы і ваенныя школы; в) арганізацыя розных курсаў у самым саўгасе.

4. Арганізатар масавай палітыка--асьветнай работы, якія аб'ядвае добраахвотніцкі актыў, прыкладна, па наступных групах; а) група ліквідацыі няпісьменнасьці школьнай і па-за школьнай асьветы; б) масавых кампаній; в) арганізацыі і работы культустаноў унутры саўгасу.

Кожны рабачком вылучае з свайго асяродку работніка па аказаньні дапамогі масавай калектывізацыі батрацтва, працдагаворнай рабоце, па дапамозе калгаснаму будаўніцтву.

Рабачкомы і вылучаныя імі арганізатары праводзяць сваю работу з вучотам асаблівасьцяў умоў працы і быту і запатрабаваньняў работніц і рабочай моладзі.

У склад рабочых камітэтаў, арганізатараў груп добраахвотніцкага актыву павінны абавязкава ўцягвацца работніцы рабочая моладзь і спэцыялісты.

Увага: У буйнейшых саўгасах („Гігант“, „Хутарок“, Пахта-Арал) і інш. з дазволу рэспубліканскіх, краевых і вобласных арганізацый у адпаведнасьці з структурай іншых грамадзкіх арганізацый, могуць быць прадстаўлены рабачкому правы райкомаў, а вучасткам правы рабачкомаў.

*б) Вучастковыя і цэхавыя камітэты.*

(Вучастковы, цэхкомы).

На вучастках саўгасу, у хутарох, прадпрыемствах па перапрацоўцы і інш. пры наяўнасьці ў іх ня менш 25 чалавек сталых рабочых і служачых арганізуюцца вучастковыя ці цэхавыя камітэты, падпарадкаваныя агульна-саўгаскаму рабачкому. Цэхавыя камітэты ў прадпрыемствах не агулянасаўгаскага, а вучасковага значэньня знаходзяцца пад кіраўніцтвам вучастковых камітэтаў.

Для абгаварэньня і рашэньня важнейшых вытворча-палітычных і прафэсыянальных пытаньняў вучасткомы і цэхкамітэты склікаюць агульны сход, вытворчую нараду і нараду прафактыву. Вучастковыя і цэхавыя камітэты вылучаюць, прыкладна, тых жа арганізатараў, зборшчыкаў членскіх ўзносаў і прадстаўніка ў РКК.

Увага: Як правіла, РКК арганізуецца на вучастках, у прадпрыемствах, майстэрнях і ў тых выпадках у цэнтры, калі агульна-саўгаскі рабачком непасрэдна абслугоўвае рабочых і служачых таго ці іншага вучастку.

*в) Прафупаўнаважаныя.*

На вучасках саўгасу, хутарах, прадпрыемствах, трактарных калёнах і брыгадах, якія налічваюць менш 25 чалавек сталых рабочых і служачых але ня менш 5 чаловек абіраецца прафупаўнаважаны.

Прафупаўнаважаны вучастку, хутара, прадпрыемства, трактарнай калёны ці брыгады, якія зьвязаны па гаспадарчай лініі непасрэдна з цэнтрам саўгасу (дырэктарам), падпарадкуюцца агульнасаўгаскаму рабачкому.

Прафупаўнаважаныя прадпрыемстваў, трактарных калён ці брыгад вучасткавага значэньня падпарадкоўваюцца вучастковаму камітэту.

У абавязак прафупаўнаважаных уваходзіць: сувязь з агульна-саўгаскім рабачкомам ці вучасткомам, правядзеньне сходу, збор членскіх узносаў Вакол сябе ён фармуе добраахвотніцкі актыў, з якім і арганізуе ўдзел рабочых у грамадзка-вытворчай працы прадпрыемства (сацспаборніцтва і ўдарніцтва, палітыка-выхаваўчае і культурна-асьветнай абслугоўваньне рабочых і інш.).

**Саюзныя органы ў леспрамгасах і на сплаве.**

*А. Лесарабачкомы.*

У леспрамгасах, якія маюць на сваей тэрыторыі некалькі лесавучасткаў, трактарных баз і леса-конных баз, арганізуецца леса-рабачком.

Для абгаварэньня і рашэньня вытворча-палітычных і прафэсыянальных пытаньняў лесарабачком склікае:

1. Агульна-леспрамгасаўскі сход, а там, дзе гэта немагчыма па тэрытарыяльна-тэхнічных прычынах агульна-леспрамгасаўскую канфэрэнцыю рабочых і служачых.

2. Агульна-леспрамгасаўскую вытворчую канфэрэнцыю.

3. Агульна-леспрамгасаўскую нараду прафактыву.

Лесарабачком вылучае арганізатараў:

а) арганізатара сацспаборніцтва і ўдарніцтва;

б) арганізатара працы і быту;

в) арганізатара масавай палітыка-выхаваўчай работы;

г) арганізатара па кадрах.

На лесарабачкомы і яго арганізатараў ўскладаюцца абавязкі ў адпаведнасьці з пералікам задач, ускладзеных на рабачкомы ў саўгасах. дапасавана да вытворча-грамадзкіх умоў работы ў леспрамгасе (гл. разьдзел саўгасаў).

Увага: Буйнейшым лесарабачкомам рэспубліканскімі, краевымі і вобласнымі камітэтамі могуць быць прадстаўлены правы райкомаў.

*Б. Лесавучасткамы і цэхавыя камітэты.*

У вучлеспрамгасах, якія маюць ня менш 25 чалавэк сталых рабочых і служачых, арганізуецца лесавучасткам, падпарадкаваны лесарабачкому.

У прадпрыемствах лясной гаспадаркі, трактарных базах, лесаконных базах і лесазагатоўчых пунктах, маючых агульнае лесапрамгасаўскае значэньне і налічваючых ня менш 25 чалавек сталых рабочых і служачых, ствараецца цэхавы камітэт, падпарадкаваны лесарабачкому.

У прадпрыемствах, трактарных базах, леса-конных базах і лесазагатоўчых пунктах вучаатковага значэньна арганізуецца цэхавы камітэт, падпарадкаваны лесавучасткому.

Вучасткомы і цэхавыя камітэты праводзяць агульныя сходы (а у выпадку немагчымасьці на тэрыторыяльна-тэхнічных прычынах склікаць агульны сход вучастковыя канфэрэнцыі) рабочых і служачых, вытворчыя нарады і нарады прафактыву. Вылучаюць, прыкладна, тых жа арганізатараў, што і лесарабачкомы а таксама зборшчыкаў членскіх ўзносаў і прадстаўніка ў РКК.

Увага: РКК ствараецца на месцы знаходжэньня рабачкому, а не вучасткому толькі ў тых выпадках, калі лесарабачком непасрэдна сам абслугоўвае тую ці іншую групу рабочых і служачых.

*В. Прафупаўнаважаныя.*

На вучастках, прадпрыемствах лясной гаспадаркі, трактарных базах і лесаконных базах, маючых агульнае леспрамгасаўскае значэньне і налічваючых менш 25 чалавек сталых рабочых і служачых, але нь менш 5 чалавек, абіраецца прафупаўнаважаны, падпарадкаваны лесарабачкому. На лесазагатоўчых пунктах, у прадпрыемствах, трактарных і леса-конных базах, якія маюць вучасткавае

значэньне і якія налічваюць тую-ж колькасьць сталых рабочых і служачых, абіраецца прафупаўнаважаны, падпарадаваны лесавучасткому.

*Г. Саюзныя органы на сплаве.*

На транзітным сплаве, буксірным і бяз тяглавай сілы, на плытах, пры наліччы ня менш 25 чалавек рабочых і абслугоўваючага пэрсаналу, арганізуецца сплаўрабачком; пры меншай колькасьці рабочых, але ня менш 5, абіраецца прафупаўнаважаны.

Рабочыя малявога сплаву абслугоўваюцца бліжэйшым лесарабачкомам ці лесавучасткомам, з вылучэньнем арганізатара-інструктара.

На пунктах масавага згуртаваньня рабочых сплаву (зрыўка, сплотка, запаньня) пры наліччы ня менш 25 чал. членаў саюзу арганізуецца сплаўрабачком, падпарадкаваны лесарабачкому адпаведнага леспрамгасу.

Увага: У пунктах пагрузкі і выгрузкі са значным згуртаваньнем рабочых, не падпарадкаваных па гаспадарчай лініі леспрамгасу, створаныя рабачкомы абслугоўваюцца непасрэдна рэспубліканскімі, краевымі і вобласнымі арганізацыямі.

Для кіраўніцтва і практычнай дапамогі ў працы прафорганам сплаву рэспубліканскія, краевыя і вобласныя камітэты, на тэрыторыі якіх праходзіць сплаў, вылучаюць спэцыяльныя падвіжныя інструктарскія брыгады, якія ў межах водазбору ці рэк сплаву свайго раёну і абслугоўваюць транзітны сплаў.

Увага: На плытох з буйным згуртаваньнем рабочых пры наліччы адміністрацыі і сплаўрабачкому. з ведама вышэйстаячых арганізацый могуць быць створаны плытавыя РКК.

**Саюзныя органы ў калгасах, МТС і іх прадпрыемствах.**

Пры кустовых аб'яднаньнях калгасаў, пры наліччы ня менш 100 членаў саюзу ў калгасах і раёнах дзейнасьці куста, абіраецца прафком, а ў калгасах, на вучастках і прадпрыемствах упаўнаважаны, пры наліччы ня менш 10 членаў саюзу.

На машынна-трактарных станцыяй, прадпрыемствах калгасаў і каапэрацыі абіраецца рабачком, пры наліччы ня менш 25 сталых рабочых, служачых і спэцыялістых, пры меншай колькасьці упаўнаважаны.

Прафкомы пры кустовых калгасаб'яднаньнях і рабачкомах на машынна-трактарных станцыях і прадпрыемствах кіруюць вышэйстаячыя саюзныя органы.

У буйнейшых калгасах, выконваючых у адносіне да другіх калгасаў ролю куставога цэнтру, саюзныя органы абіраюцца таксама, як і ў кустовых аб'яднаньнях.

У адносіне працуючых па найму кваліфікаваных рабочых, служачых і спэцыялістых прафком, як саюзны орган, мае задачы як у адносіне уцягненьня рабочых, служачых і спэцыялістых у вытворчасьці. так і абароны іх інтарэсаў шляхам заключэньня калдагавораў на аснове агульнага працоўнага заканадаўства і г. д.

У адносіне членаў саюзу батракоў якія ўвайшлі ў калгасы, прафком мае задачы палітыка-асьветнага абслугоўваньня іх (ліквідацыя няпісьменнасьці, вылучэньне на вучобу), а таксама і згуртаваньня батрацтва для актыўнага ўдзелу ў вытворча-грамадзкім жыцьці калгасу (батрацка-бедняцкія групы, вытворчыя нарады калгасу, вылучэньне ў органы кіраўніцтва).

Уся работа прафкому павінна быць падпарадкавана агульнай задачы ўзмацненьня буйнай абагуленай гаспадаркі, на аснове вытворчай самадзейнасьці батрацтва мас сялянства ў калгасе.

Прафкомы і ўпаўнаважаныя, не падмяняючы ў сваей працы праўленьне калгасу, арганізуюць батрацтва навакол своечасовага і поўнага выкананьня вытворчага пляну калгасу і для барацьбы з кулацкім уплывам па-за і ўнутры калгасу.

Прафкомы аказваюць садзейнічаньне праўленьню калгаса ў правільнай арганізацыі вытворчасьці, працы, разгортваньня сацспаборніцтва, ударніцтва, а таксама сумесна з праўленьнем арганізуюць матар'яльна-працоўную дапамогу батрацтву (першачарговая пасылка на работу, на трактарныя і іншыя курсы, авансавая аплата за работу грашыма і натурай да першага ўраджаю калгасу і г. д.).

Для правядзеньня ўсей гэтай работы прафком вылучае арганізатараў.

1. Арганізатара па сувязі з батрацка бядняцкімі групамі па ўцягненьні ў іх працу батрацтва.

2. Арганізатара па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батракоў калгаснікаў і па распаўсюджваньні друку.

3. Зборшчыкаў членскіх узносаў.

Для абгаварэньня і вырашэньня важнейшых пытаньняў, якія ўваходзяць у кола дзейнасьці прафкомаў і прафупаўнаважаных, апошнія склікаюць:

1. Агульны сход членаў саюзу ў калгасу, куставыя і раённыя канфэрэнцыі.

2. Нарады прафактыву (упаўнаважаных, арганізатараў, зборшчыкаў).

### Сельрабачкомы.

У раёнах, дзе не забаронены наём у індувідуальных гаспадарках, для абслугоўваньня батрацтва і пастушаства, занятага па найму ў гэтых гаспадарках і сельвобчаствах, арганізуюцца сельрабачкомы.

Сельрабачкомы працуюць на аснове палажэньня ЦК саюзу аб сельрабачкомах (гл. „Справочник Профработника“ №10-11-12 за 1929 г.), у якое ўносяцца наступныя зьмены:

1. Замест камісій сельрабачкомамі вылучаюцца наступныя арганізатары:

а) арганізатар па масавай калектывізацыі і каапэраваньні батрацтва, у задачу якога ўваходзіць уцягненьне батракоў у калгасы, саматужна-прамысловую і спажывецкую каапэрацыю;

б) арганізатар абаронча работы, у задачу якога ўваходзіць падрыхтоўка і правядзеньне працдагаворнай, разьлікавай кампаніі, ахова працы, праверка працдагавараў, прадстаўніцтва па батрацкіх справах у канфліктных камісіях, нарсудах і г. д.;

в) арганізатар па сувязі з батрацкабядняцкімі групамі пры сельсаветах, спажывецкай каапэрацыі і іншых выбарных органах, ў задачу якога ўваходзіць сувязь з батрацка-бядняцкімі групамі ў гэтых органах.

Аднэй з важнейшых задач усіх арганізатараў зьяўляецца ўцягненьне батрацтва і пастушаства ў шэрагі прафсаюзу.

Усю гэту работу сельрабачкомы праводзяць аб'яднаючы навакол сябе добраахвотніцкі актыў з асяродку батрацтва і пастушаства.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту Саюза сельгаслесрабочых „пра рэарганізацыю сеткі сельрабачкомаў“

Масавая і суцэльная калектывізацыя бядняцка—серадняцкіх гаспадарак, ліквідацыя найму ў кулацкіх гаспадарках у раёнах суцэльнай калектывізацыі і масавая калектывізацыя батрацтва патрабуюць ня толькі перабудовы зьместу і мэтадаў работы саюзу, але і зьмены сучаснае структуры нізовых саюзных органаў сельрабачкомаў. У адпаведнасьці з гэтым і на падставе рашэньня ЦК саюзу, Прэзыдыум БРК пастанаўляе замест існуючай сеткі сельрабачкомаў арганізаваць:

1) Райпрафкомы пры райкалгассаюзах (але не пры поляводсаюзах) у раёнах, дзе пераважная колькасьць маючагася ў раёне батрацтва (прыкладна 65-70%) уцягнута ў калгасы. На гэтыя прафкомы таксама ўскладаецца задача па калектывізацыі і абароне інтарэсаў той часткі батракоў, якая яшчэ не калектывізавана. У гэтых раёнах сельрабачкомы не арганізуюцца

2) Райсельрабачкомы ў тых раёнах, дзе не забаронены наём рабочай сілы і пераважная колькасьць батрацтва не калектывізавана. Райсельрабачком павінен знаходзіцца ў месцы найбольшага згуртаваньня батрацтва, г.зн. не абавязкава ў райцэнтры.

3) У адным раёне і райпрафкомы і райсельрабачком у паасобных выпадках калі ў раёне маецца значная колькасьць батрацтва і пастушаства ў індывідуальным сэктары (прыкладна на 50%).

4) Райпрофком аб'яднае і абслугоўвае:

а) Членаў саюзу батракоў—калгаснікаў усіх калгасаў раёну.

б) Усіх спэцыялістых аграномаў, заотэхнікаў, землеўпарадкаваццеляў, гідратэхнікаў і інш, што абслугоўваюць калгасы.

в) Усіх работаючых па найму ў калгасах, іх прадпрыёмствах і ў райкалгассаюзе кваліфікаваных рабочых (масларобаў-сыравараў) і служачых.

г) Работнікаў райземчасткі РВК.

д) Рабочых камбінатаў РВК.

е) Габочых мабілізаваных на сталую работу ў калгасы.

ж) Грамадзкіх пастухоў і батрацтва, якое будзе працаваць у індывідуальных гаспадарках і сельскіх грамадах у тых выпадках, калі ў раёне адсутнічае сельрабачком.

5) Райсельрабачком абслуяоўвае і аб,яднае:

а) Батракоў і пастухоў, якія працуюць у асобных селянскіх гаспадарках, сельскіх грамадах.

б) Местачковых адзіночак (хатніх работніц, вучняў у саматужнікаў).

в) Таксама і батракоў—калгасьнікаў, спэцыялістых у калгасах і інш. групы, паказаныя ў п. 4 у тых выпадках, калі ў раёне няма райпрафкому.

6) Калі ў раёне будуць арганізаваны і райсельрабачкомы, і райпрафком, дык местачковых адзіночак абслугоўвае райсельрабачком, а рабочых камбінатаў РВК—райпрафком.

7) У раёнах, дзе арганізаваны аграіндустрыяльныя камбінаты, пры іх арганізуюцца самастойныя прафкомы.

8) На машынна трактарных станцыях арганізуюцца самастойныя рабачкомы, якія аб,яднаюць рабочых працуючых у МТС.

9) Калі на асобных прадпрыёмствах камбінатаў РВК працуе звыш 25 чалавек рабочых, дык на гэтых прадпрыемствах застаюцца, ці павінны быць арганізаваны зноў, самастойныя рабачкомы.

10) Пры наяўнасьці ў раёным цэнтры значна колькасьці (звыш 40 чал.) членаў саюзу рабочых адзіночак (хатнія работніцы і вучні ў саматужнікаў) для іх абслугоўваньня арганізуецца асобный местачковы рабачком адзіночак, у якім работа, як правіла, вядзецца безплатных работнікаў.

11) У паасобных калгасах, альбо куставых аб,яднаньнях, на паасобных прадпрыемствах, што абслугоўваюцца райпрафкомам, ці райсельрабачкомам пры наяўнасьці ў іх ня менш 10 членаў прафсаюзаў, абіраюцца прафупаўнаважаныя. Прафупаўнаважаныя зьяўляюцца выбарнымі не платнымі работнікамі.

Пры наяўнасьці ў адным калгасе менш 10 членаў прафсяюзу, прафупаўнаважаны можа абірацца адзін для 2-3х бліжэйшых калгасаў у радыусе, прыкладна, 3-4 кіламэтраў.

Прафупаўнаважаныя таксама абіраюцца і пры наяўнасьці звыш 10 членаў саюзу батракоў і пастухоў, занятых у індывідуальных гаспадарках і сельскіх грамадах. у асобнай вёсцы ці некалькіх недалека адлеглых.

12) Падпарадкаваючы ўсю сваю дзенасыць ажыцьцяўленьню асноўнай задачы узмацненьня буйнай абагуленай (сацыялістычнай гаспадаркі) праз палітычна—вытворчую самадзейнасьць батрацтва і бядняцка—серадняцкіх мас у калгасах, райпрафком для практычнага вядзеньня сваей работы вылучае арганізатараў:

а) Арганізатара па сувязі з батрацка—бядняцкімі групамі па ўцягненьні ў іх работу батрацтва.

а) Арганізатара па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батракоў—калгасьнікаў і па распаўсюджваньні друку.

в) Зборшчыкаў членскіх узносаў.

У тых райпрафкомах, якія абслугоўваюць батрацтва і пастушаства, занятае ў індывідуальных гаспадарках вылучаюцца таксама:

г) Арганізатара абароннай работы.

д) Арганізатара па масавай калектывізацыі і каапэраваньні батрацтва.

Для правядзеньня ўсёй работы арганізатары згуртоўваюць вакол сябе добраахвотніцкі актыў з батрацтва і пастушаства.

13) Сродкі на ўтрыманьне райпрафкомаў і райсельрабачкомаў складаюцца: з налічэньня па дагаворах на работнікаў, якія будуць абслугоўвацца імі, з членскіх узносаў батракоў—калгасьнікаў і ў асобных выпадках з датацыі БРК саюзу.

14) Рэарганізацыю сеткі сельрабачкомаў і арганізацыю райпрафкомаў і райсельрабачкомаў правесьці ў працягу мая.

## Аб перабудове форм і мэтадаў работы нізовых саюзных органаў (рабачкомаў)

(Пастанова Прэзыдыуму БРК саюзу за 19/IV-30 г.).

Для пасьпяховага выкананьня задачы мабілізацыі ўсіх сіл саюзу на справу сацыялістычнае перабудовы сельскае і лясное гаспадаркі. саюзу перш за ўсё патрэбна хутка і рашуча перабудаваць формы і мэтады работы нізовых саюзных органаў (рабачкомаў). Забясьпечыць ажыцьцяўленьне наступнага.

1) У штодзённай рабоце кожнага рабачкому ажыцьцявіць сапраўды паварот тварам да сацыялістычнае вытворчасьці, да патрабаваньняў рабочых мас.

2) Шырокае ўцягненьне ва ўсю прафсаюзную работу добраахвотніцкага актыву, высоўваньне і выхоўваньне на практычнай рабоце новых кадраў, актыву і вылучэнцаў.

Найбольш чотка вызначыць абавязкі і пэрсанальную адказнасьць кожнага работніка за даручаную яму саюзам работу.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум БРК саюзу пастанаўляе:

I) Рабачкомы каўгасаў, лясьніцтв, лесараспрацовак і інш, на працягу красавіка—мая ў адпаведнасьці з палажэньнем ЦК аб структуры саюзных органаў (глядзі гэты-ж нумар бюлетэню):

а) Заместа існаваўшых камісій правесьці вылучэньне арганізатараў па асобных галінах работы.

б) Пачаць шырока разгортваць вярбоўку і прыцягненьне на работы добраахвотнікаў.

в) Аугнізацыю (выбары) вучастковых (цэхавых) арцельных камітэтаў, ці прафупаўнаважаных у існуючых рабачкомах (саўгасаў, лесараспрацовак і інш.) правесьці ў час перавыбарчае кампаніі (чэрвень – ліпень).

2) У прафкомах пры Райкалгассаюзах і іншых уноў арганізуючыхся нізовых ячэйках работа павінна адразу-ж арганізавацца ў адпаведнасьці з новым палажэньнем аб структуры саюзных органаў, г.зн. адразу ж праводзяцца выбары прафкому, прафупаўнаважаных, выдзяляюцца арганізатары і г.д.

3) Зацьвердзіць часовыя палажэньні аб рабоце арганізатараў і добраахвотніцтве (дадаюцца). Ар, Сэктару, сумесна з адпаведнымі вытворчымі сэктарамі, наладзіць вывучэньне вопыту работы арганізатараў і добраахвотніцтва з тым, каб праз два месяцы паставіць на абгаварэньне Прэзыдыуму першыя вынікі і вызначыць мерапрыемствы па далейшым разгортваньні работы.

4) Вытворчым сэктарам, сумесна з Арганізацыйным Сэктарам, да 5/V выпрацаваць рабочыя памяткі для паасобных арганізатараў і груп добраахвотнікаў.

5) Рабачкомам шырока разгарнуць работу па азнаямленьні ўсёй саюзнай масы з задачамі перабудовы работы саюзных органаў з новымі яе (работы) формамі, як найшырэй прыцягнуць масы да правядзеньня гэтай перабудовы. Практычна належыць на агульных сходах . шляхам спэцыяльных гутарак азнаёміць усю масу членаў саюзу з палажэньнем ЦК аб структуры саюзных органаў і дырэктывамі БРК. На сходах абгаварыць таксама практычныя мерапрыемствы па перабудове работы рабачкомаў, па арганізацыі добраахвотніцтва.

Шырока скарыстаць насьценгазеты для абгаварэньня пытаньняў работы па новаму.

6) Абавязаць інструктарскі склад (акр. і райінструктараў):

а) Справу дапамогі рабачкомам у перабудове работы, кіраваньне гэтай работай зрабіць сваей асноўнай задачай на бліжэйшы час. Не пазьней, як 10/V правесьці раённую нараду рабачкомаў для дакладнага абгаварэньня задач і парадку перабудовы.

б) Наладзіць вывучэньне вопыту работы арганізатараў і добраахвотніцтва. Удалы вопыт аднэй ячэйкі перанесьці ў іншыя. Сваечасова сыгналізаваць і прымаць захады да выпраўленьня ўсякіх ненармальнасьцяў.

в) Усю сваю работу па інструктаваньні і дапамозе рабачкомам праводзіць брыгадным мэтадам з шырокім прыцягненьнем добраахвотнікаў. Згуртаваць навакол сваёй работы па інструктаваньні нізовых ячэек добраахвотніцкі актыў.

# ЧАСОВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ

## Аб рабоце арганізатараў.

1. Арганізатары па паасобных відах работ вылучаюцца рабачкомам (на пасяджэньні рабачкому) як з ліку членаў рабачкому, гэтак з ліку актыву, лепшых ударнікаў, прыкладных рабочых. Пры вылучэньні ўлічваецца неабходнасьць уцягненьня жанчын работніц і спецыялістых.

2. Арганізатары павінны замацоўвацца на рабоце на тэрмін выбару рабачкомаў. Не дапускаць частай зьмены.

3. Арганізатар прымае ўдзел у складаньні агульнага пляну работы рабачкому, а для гэтага ён намячае пытаньні, якія па яго галіне работы павінны быць уключаны ў плян работы рабачкому.

4. Арганізатар нясе поўную адказнасьць перад рабачкомам за сваячасовае, поўнае і чёткае правядзеньне ўсіх мерапрыемств, вызначаных па яго галіне работы: у пляне работ, у дырэктывах, кіруючых прафсаюзных органоў, у пастановах рабачкому і агульных сходаў.

5. Арганізатар павінен сваячасова выяўляць запатрабаваньні і думкі рабочых, ускрываць маючыяся недахопы ў той галіне работы, за якую ён адказвае, вызначыць і праводзіць патрэбныя мерапрыемствы, ставіць перад рабачкомам пытаньні сваей работы.

Арганізатар стала вывучая сваю галіну работы, а для гэтага азнаемляецца з усімі дырэктывамі, пастановамі пра яго галіну работы (чытае „Бел. Батрак", саюзныя і спэцыяльныя часопісы, бюлетэнь БРК і г. д.), знаёміцца з вытворчымі плянамі, ваданьнямі і г. д.

6. Ніякіх пасяджэньняў арганізатар не праводзіць. Праводзіць толькі дзелавыя нарады добрахвотнікаў для інструктаваньня, вызначэньня заданьняў паасобных добрахвотніках і групах, абгаварэньне вынікаў работы.

7. Арганізатары агульна-саўгаскіх, і іншых рабачкомаў, кіруюць работай адпаведных арганізатараў вучастковых ці цэхавых рабачкомаў, шляхам асабістага інструктаваньня, асабістае дапамогі, нарад, не падменяючы кіраўніцтва з боку рабачкому.

Арганізатары участковых, ці цэхавых рабачкомаў патрымлiваюць непасрэдную сувязь з адпаведным арганізатарам агульна-саўгаскага, ляснога рабачкому, стала знаёмяць яго з становішчам работы, зварачваюцца за нарадай.

8. Рабачкомам у плянавым парадку ў першы час не радзей, як адзін раз у месяц заслухоўвае на сваіх пасяджэньнях даклады арганізатараў аб ходзе і становішчы работы, аб выкананьні пляну работ, заданьняў рабачкому аб прыцягненьні і скарыстаньні добрахвотнікаў Дае паказаньні аб далейшай рабоце.

## Аб арганізацыі і рабоце добрахвотніцтва (добрахвотніцкіх груп)

Асноўнай задачай арганізатараў зьяўляецца зьбіраньне добрахвотніцкага актыву, правільнае і найбольш поўнае яго скарыстаньне для правядзеньня работ у той галіне, за якую ускладзена на яго (арганізатора) адказнасьць.

2. Добрахвотнікі аб'ядноюцца па групах, вызначаных у палажэньні ЦК саюзу аб структуры саюзных ворганаў.

3. У склад груп добрахвотнікаў уваходзяць:

а) добрахвотнікі, якія жадаюць стала (больш-менш працяглы тэрмін) працаваць у складзе групы.

б) Добрахвотнікі, якія жадаюць прыняць удзел толькі ў правядзеньні якой небудзь асобой адначаснай работы.

в) Члены выбарных бюро асобных арганізацый, работа якіх зьвязана з работай добрахвотніцкай группы ТСАсовіахім, П. Няпісьменасьць.

Колькасьць добрахвотнікаў у групе не абмяжоўваецца.

4. Вярбоўка добрахвотнікаў праводзіцца рабачкомамі і арганізатарамі стала, шляхам выяўленьня членаў саюзу, якія жадаюць работаць у данай галіне работы.

Рабачком і арганізатар стала прымаюць заходы да захвочваньня рабочых на добрахвотніцкую работу, шляхам:

а) правядзеньня групавых гутарак у час перапынку у інтэрнатах, бараках, чырвоных кутках.

б) індывідуальных гутарак з паасобнымі рабочымі і работніцамі.

в) пісьмовых і вусных аб'яў аб намечаемых для правядзеньня работ і патрэба для іх правядзеньня работнікаў.

г) Для вярбоўкі добрахвотнікаў шырока скарыстоўваюцца насьценгазэты.

Асобную ўвагу зьвяртаць на вярбоўку добрахвотнікаў з ліку ўдарнікаў, прыкладных рабочых, жанчын і маладзі, а таксама і спэцыялістых.

5. Добрахвотнік можа, або абіраць сабе сталую (сыстэматычную) работу, напрыклад: правядзеньне галосных чытак у чырвоным кутку, альбо прымаць удзел у правядзеньні толькі адначасовых мерапрыемств, напрыклад: праверку ходу сацспаборніцтва, падрыхтоўка асобнага пытаньня для вытворчай нарады.

6. Рабачком і арганізатар абавязаны ўсебакова садзейнічаць добрахвотнікам у дасканалым вывучэньні адпаведных дырэктыў, матар'ялу па таму пытаньню, якім займаецца добрахвотнік. Садзейнічаць у падвышэньні кваліфікацыі добрахвотніка ў данай галіне, практыкуя для гэтага правядзеньне спэцыяльных гутарак, лекцый і ў паасобных выпадках нават спэцыяльных каротка-тэрміновых курсаў. Садзейнічаць у выкарыстаньні добрахвотнікамі для мэты узьняцьця кваліфікацыі завочнага навучаньня.

7. Перад правядзеньнем—кожнае новае, ці адначасовае работы арганізатара рабачком праводзіць з добрахвотнікамі, якія будуць прымаць удзел, інструкцыйную нараду. На гэтай нарадзе дакладна растлумачваецца зьмест работы, задачы яе і парадак правядзеньня. Кожнаму добрахвотніку ці, калі работа праводзіцца групамі, дык кожнай групе павінна давацца дакладнае заданьне. Пажадана, асабліва пры больш складаных работах, кожнаму удзельніку даваць пісьмовую памятку аб рабоце (пералік пытаньняў, якія належыць выяўляць, праводзіць).

9. Добрахвотнікі пры правядзеньні работы, як мага шырэй карыстаюцца практыкай правядзеньня групавых і індывідуальных гутарак з рабочымі, азнаемляе іх з задачамі работы, заахвочае на лепшую работу, на барацьбу з недахопамі, выкрывае праз іх (рабочых) маючыеся недахопы і прапановы аб спосабах палепшаньня работы.

Добрахвотнік, праводзячы тую, ці іншую работу, павінен даваць аб ей матар'ял для насьценгазэты, пісаць у „Бел. Батрак“ і іншыя газэты.

10. Па сканчэньні паасобнай работы, арганізатар праводзіць нараду удзельнікаў, на якой заслухоўваюцца вусныя паведамленьні добрахвотнікаў аб выніках іх работы, абгаварваюцца практычныя прапановы, якія пасьля гэтага уносяцца на абгаварэньне і зацьверджаньне рабачкому.

11. Добрахвотнікі працягваюцца да ўдзелу на пасядженьнях рабачкому, дзе абгаварваюцца пытаньні, зьвязаныя з іх работай.

12. Арганізатары і старшыя груп вядуць сталы вучот:

а) Добрахвотнікаў, якія прымаюць удзел у рабоце па данай галіне.

б) нагрузак і заданьняў добрахвотнікам.

в) праробленай работы.

Усе гэта робіцца шляхам простых запісаў у асобным сшытку-дзеньніку.

Выдавецтва Бел. Рес. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.

Адказны рэдактар **Манжалей**.

Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч**.

Галоўлітбел № 2051. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.